**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 33 (801) 13 жніўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**На Глыбоччыне адбыліся БАЖынкі.** На здымку: спявае Зміцер Вайцюшкевіч. *Працяг тэмы на стар. 4*



ISSN 2077-8023



Верхнядзвінскі раён

# Усе пытанні важныя

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе жніво ў краіне стала, сапраўды, спякотным і прывяло паўторна да ўвядзення забароны на наведванне лясных масіваў Віцебшчыны.**

Нягледзячы на моцную спёку ў Верхнядзвінскім раёне з рабочай паездкай пабываў старшыня ніжнай палаты парламента Уладзімір Андрэйчанка. У мінулым ён даволі плённа кіраваў працяглы час вобласцю і добра ведае патэнцыйныя магчымасці кожнага рэгіёна. Тут на паўночным захадзе Прыдзвіння, дарэчы, на не самых спрыяльных землях атрымоўваюць нядрэнную ўраджайнасць зерневых і зернебабовых, па 40 цэнтнераў з гектара. Аднак кіраўнік Палаты прадстаўнікоў высветліў, што ў мясцовых гаспадарак не быў створаны запас паліва на жніво. У асобных сельгаспрадпрыемствах саляркі і бензіну было не больш чым на 2 дні працы ў полі, калі кожная пагодная гадзіна важная для атрымання высокіх намалотаў і выканання дзяржзаказу. Прама на месцы разам з кіраўніцтвам аблвыканкама былі абмеркаваны падыходы, каб вырашыць гэту праблему і таксама выдзеліць авансы вяскоўцам, каб яны змаглі падрыхтаваць сваіх дзяцей да новага навучальнага года. Падчас гэтай паездкі У. Андрэйчанка таксама заняўся праблемамі буйнейшага прадпрыемства раёна ААТ “Інвет”, што ў прыгранічным пасёлку Бігосава. На ім працуе каля трохсот чалавек, а зараз калектыў сутыкнуўся з цяжкасцямі, бо такія гіганты, як МТЗ і “Гомсельмаш” дрэнна разлічваюцца за адгружаныя паліўныя бакі. Вырашэнне асноўных вытворчых цяжкасцей завадчан спікер паламента ўзяў на кантроль, тут ім спатрэбіцца дапамога і рашэнні на ўзроўні ўрада Беларусі.

Шумілінскі раён

# Сусед аказаўся героем

■ Чэслаў Якубовіч.

**Быццам дарослыя і ведаюць, што малых дзяцей нельга і на некалькі хвілін пакідаць адных без увагі.**

Па гэтай прычыне толькі па шчаслівай выпадковасці не адбылося днямі вялікай бяды ў вёсцы Крывое Сяло, што ў Шумілінскім раёне. Там з раніцы з дома пайшоў па сваіх справах бацька маладой сям'і, потым і маці адправілася ў магазін за пакупкамі. У хаце засталася адна іх трохгадовая дачка і як гэта часта бывае, пачала гуляць з запалкамі. У выніку адбыўся пажар, з памяшкання паваліў дым. Аднавяскоўцы выклікалі на дапамогу пажарных, а вось сусед гэтай сям'і, работнік мясцовага лягаса Мікалай Марозаў не разгубіўся і стаў дзейнічаць мужна і рашуча. Ён здагадаўся, што ў доме можа знаходзіцца дзяўчынка і праз акно зачыненай на замок хаты прабраўся ў памяшканне. Пасярод моцнага задымлення ў пакоях смелы мужчына знайшоў на кухні дзіця і вынес яго з вогненнай пасткі. Пасля гэтага сусед працягваў дзейнічаць як герой і з рызыкай для ўласнага жыцця зноў прабраўся ў палаючую хату, каб адкруціць і вынесці яшчэ газавы балон, які мог узарвацца і нарабіць яшчэ большай бяды. Неўзабаве прыбылі на дапамогу выратавальнікі на дзвюх пажарных машынах і справіліся з пажарам. Праўда, сям'я пацярпелых засталася без жылля, бо агонь паспеў моцна пашкодзіць сцены, знішчыць нажытую маёмасць і поўнасцю дах памяшкання. Аднак самае галоўнае, што гераічны ўчынак мужчыны дапамог выратаваць ад гібелі суседскую малую дзяўчынку.

Пастаўскі раён

# Трагедыі на роўным месцы

■ Станіслаў Раманчук.

**У наш час перыядычна адбываюцца розныя недарэчныя, часам проста рэдкія здарэнні з людзьмі.**

Вось і ў заўсёды спакойных Паставах за некалькі дзён адбылося некалькі такіх жыццёвых трагедый. Даўно ўжо ў горадзе не было такога, каб тут фіксавалася забойства. Аднак пасярод летняга дня практычна ў цэнтры, паблізу ад магазіна “Дзявятачка” прахожыя ўбачылі труп маладога мужчыны. Як было ўстаноўлена следствам, 33-гадовага раней судзімага і непрацуючага гараджаніна забіў ударам нажа ў грудзі старэйшы больш чым на дваццаць гадоў знаёмы, таксама з багатай турэмнай біяграфіяй. Яны за суткі да забойства выпівалі разам, моцна пасварыліся і “пакрыўджаны” вырашыў так вось сурова адпомсціць, за што можа быць пажыццёва зняволены, альбо смяротна пакараны. Яшчэ праз некалькі дзён труп яшчэ аднаго пастаўчаніна быў заўважаны паблізу СШ № 3. Аднак тут ніякага крыміналу не было, паколькі 56-гадовы жыхар вуліцы Заводскай трагічна загінуў па ўласнай неасцярожнасці. Ён упаў, едучы на веласіпедзе, і, на бяду, напароўся на нож, які тарчаў з дарожнай сумкі з пакетамі з абрэзкамі мяса. Толькі паспелі пахаваць жыхара райцэнтра, як падчас выканання работ па нарыхтоўцы драўніны на тэрыторыі Старадворскага лясніцтва адбыўся трагічны выпадак на вытворчасці. Там у лесе ўпала дрэва і забіла работніка мясцовага лясгаса. Таксама днём на перасячэнні дзвюх вуліц горада жыхар Глыбокага пры выездзе на галоўную не прапусціў скутар і збіў жыхарку мікрараёна вуліцы Юбілейнай. Яна будзе жыць, але атрымала некалькі пераломаў і чэрапна-мазгавую траўму, змешчана на лячэнне ў бальніцу.

Аб самым надзённым

# ЯШЧЭ БОЛЬШ СКЛАДАНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫРАШАЦЬ НЕЎЗАБАВЕ І АЙЧЫННАЙ БУДАЎНІЧАЙ ГАЛІНЕ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Праблем у будаўніцтве накапілася столькі, што А. Лукашэнка публічна рубануў праўду-матку: “ какое направление ни возьми – в строительстве полный обвал, начиная от неудовлетворенности граждан сроками, качеством и стоимостью строительства и заканчивая коррупцией, в которой погрязла вся отрасль”.**

Канец сёлетняга лета ў Беларусі аказаўся ўдвайне напружаным, бо акрамя традыцыйнага экзамену па ўборцы зерневых і зернебабовых культур разгортваецца і выбарчая кампанія. Час ляціць хутка, а да 21 жніўня ініцыятыўным групам неабходна будзе пастарацца і сабраць неабходныя па законе 100 тысяч подпісаў, каб былі зарэгістраваны іх кандыдаты для далейшага ўдзелу ў выбарах. Звяртае на сябе ўвагу тое, што вядучыя дзяржаўныя СМІ сёлета даволі нейтральна, альбо нават у пазітыўным духу сталі расказваць пра асобных прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла, а апанентаў улады таксама сталі запрашаць на эфір на асноўныя тэлеканалы.

Верагодна гэта звязана не толькі з тым, каб былі створаны спрыяльныя ўмовы для саміх кандыдатаў і для нас, выбаршчыкаў, а галоўнае - вынікі прадстаўчага галасавання атрымалі міжнароднае прызнанне. Дзеючы ж кіраўнік краіны і зноў галоўны фаварыт на пасаду главы дзяржавы вымушаны акрамя выбараў займацца і іншымі важнейшымі пытаннямі. Шматвопытны палітык А. Лукашэнка як ніхто іншы разумее, што выбары адбудуцца, а цяперашні ўсеабдымны крызіс добра калі закончыцца праз два гады, груз існуючых праблем толькі нарастае. У сталіцы днямі прайшла чарговая нарада на вышэйшым узроўні па выхадзе будаўнічай галіны з праблемнай сітуацыі.

Раней удалося правесці мадэрнізацыю і тэхнічнае перааснашчэнне каля 100 бударганізацый і прадпрыемстваў буйнога панельнага домабудаўніцтва. Прыйшлося стварыць некалькі гадоў назад нават спецыяльную рабочую групу на чале з тагачасным кіраўніком прэзідэнцкай Адміністрацыі, цяперашнім прэм'ерам А. Кабяковым, бо тады па краіне зацягваліся тэрміны здачы 2126 жылых дамоў-даўгабудаў, асобных з іх нават на працягу 32 месяцаў.

Праблем у будаўніцтве накапілася столькі, што А. Лукашэнка публічна рубануў праўду-матку: “какое направление ни возьми – в строительстве полный обвал, начиная от неудовлетворенности граждан сроками, качеством и стоимостью строительства и заканчивая коррупцией, в которой погрязла вся отрасль”. Была пастаўлена задача ўпраўленцам на месцах выратаваць будаўнічы комплекс.

Акрамя гэтага ў нас існуюць праблемы ў цэнаўтварэнні яшчэ на этапе праектавання, завышаюцца і прыпісваюцца аб'ёмы будаўніча-мантажных работ. У долевым будаўніцтве таксама выяўляюцца шматлікія парушэнні, а канкрэтны забудоўшчык плоціць лішнія мільярды за безгаспадарчасць, за скрадзены цэмент, арматуру і іншыя матэрыяльныя рэсурсы. Частку праблем удалося вырашыць. Былі распрацаваны летась неабходныя нарматыўныя акты па ўкараненні рэальных тэрмінаў і ўмоў будаўніцтва, з'явіліся патрэбныя крытэрыі і падыходы, меры ўздзеяння на нядобранадзейных забудоўшчыкаў.

Галоўнае, што ў рэгіёнах вырашылі праблему дамоў-даўгабудаў, няшмат іх засталося ў Мінску. А вось з экспартам будаўнічых паслуг і будматэрыялаў за межамі Беларусі па-ранейшаму праблемы з-за няпростай сітуацыі ў суседзяў. Наша краіна стала ў 2 разы болей апошнім часам вырабляць цэменту, а шкла – яшчэ болей. Праўда, у нас думалі, што і надалей будуць толькі павялічвацца аб'ёмы ўзвядзення жылля, іх планавалася давесці да 10 млн. кв. метраў у год. Аднак падкасіў і айчынную будаўнічую галіну расійскі геапалітычны ляп “Крымнаш”, бо стала не хапаць грошай на аб'екты, скараціўся попыт на будматэрыялы. Адзінае прыемнае выключэнне новабудоўля Астравецкай АЭС, дзе работы ідуць па графіку, там акрамя станцыі будуецца і фактычна новы горад з патрэбнай інфраструктурай.

А вось сёлета зімой многія беларускія бударганізацыі пачалі адчуваць сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці і недахоп абаротных сродкаў з-за дэвальвацыі нацвалюты, змяншэння заказаў і адчувальнага зніжэння аб'ёмаў будаўніцтва як у Беларусі, так і ў Расіі, ва Украіне. Вясной аб сваім банкрутстве заявіла адна з буйнейшых будараганізацый краіны “Забудова”. У выніку ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаіць 800 тысяч беларускіх сем'яў. З 1 ліпеня 2016 года непрыватызаваныя кватэры ( іх каля 20 %) яны будуць пераведзены ў разрад памяшканняў дзяржфонду камерцыйнага выкарыстання. За жылплошчу беларусы будуць плаціць значна болей, па тарыфах арэнднай плошчы ў залежнасці ад тыпу жылля. За жыллёва-камунальныя паслугі ўсе кватэраздымшчыкі і гаспадары кватэр будуць плаціць аднолькава, а вось гэтыя тарыфы будуць расці і неўзабаве мы пачнём аплочваць іх па поўным сабекошце, да чаго варта рыхтавацца.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.08.15 | | | | Пятніца 14.08.15 | | | | Субота 15.08.15 | | | | Нядзеля 16.08.15 | | | | Пан. 17.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +21 | +21 | +19 | +18 | +14 | +16 | +22 | +17 | +11 | +16 | +22 | +17 | +12 | +16 | +22 | +16 | +11 | +14 | +16 |
| Ціск | 746 | 746 | 748 | 748 | 750 | 752 | 752 | 750 | 749 | 750 | 749 | 747 | 748 | 749 | 750 | 749 | 749 | 752 | 752 |
| Вецер м/сек | 3 | 5 | 4 | 4 | 3 | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 4 | 2 | 4 | 5 |
| | Ю | С-З | С-З | С-З | С-В | С | С | С-В | В | В | С-В | С-В | В | С-В | С-В | С-В | С-В | С-В | С-В |
| Вільготнасць | 68 | 92 | 87 | 62 | 80 | 67 | 44 | 64 | 85 | 67 | 47 | 60 | 82 | 77 | 44 | 54 | 84 | 74 | 64 |

## Дзень за днём

**Прэзідэнт зноў паабяцаў не павышаць пенсійны ўзрост. Як і чакалася, ураджайнасць збожжа сёлета ў Беларусі меншая, чым летась, з-за моцнай засухі. Услед за мінімальнымі і сацыяльнымі да выбараў вырашылі павысіць і працоўныя пенсіі на 5 %. Ветэранам даплацяць з 1 верасня ў сярэднім па 133 тысячы рублёў, аднак узровень інфляцыі ўжо большы. Беларусь павялічыла аб'ёмы паставак бензіну ў Расію. Усіх даўжнікоў беларусаў перад судамі прыгразіла Міністэрства юстыцыі пакінуць без мабільнай сувязі і доступу ў Інтэрнэт. Па краіне рэзка павялічылася колькасць рамеснікаў, ім не трэба плаціць падатак на дармаедаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** З-за спаду тэмпаў росту эканомікі індэкс асноўных кітайскіх фондавых біржаў істотна абваліўся, услед за гэтым рэзка аслабеў зноў і расійскі рубель.

**Турцыя.** Пасля тэракту ў правінцыі Шанлыўрф урад пачаў умацоўваць граніцу з Сірыяй новымі сістэмамі кантролю і стаў праводзіць спецаперацыю супраць курдаў.

**Таджыкістан.** Спецслужбы краіны прадухілі серыю тэрактаў прыхільнікаў баевікоў "Ісламскай дзяржавы", знішчылі некалькі тайнікоў для вырабу саматробных бомб.

**Афганістан**. Ісламісцкі рух "Талібан" абверг факт гібелі свайго духоўнага лідара баевікоў, мулы Амара, улады краіны пачалі праверку гэтых паведамленняў.

**Украіна.** Супраць арыштаванага маёра расійскай арміі У. Старкова распачалі крымінальную справу за незаконны ўвоз ночча ў краіну груза зброі і боепрыпасаў.

**Расія.** Газета "Коммерсант" пацвердзіла, што цяпер у "Газпрама" найгоршы перыяд з-за моцнага падзення аб'ёмаў здабычы і экспарту газу і пралікаў у ацэнках яго попыту.

**ЗША.** Упершыню ў свеце амерыканскім хірургам з Філадэльфіі ўдалося за 11 гадзін аперацыі паспяхова перасадзіць 8-гадоваму хлопчыку кісці абедзвюх рук.

**Польшча.** Пасля аперацыі і далейшага курсу лячэння ў Вене ва ўзросце 65 гадоў памёр самы багаты грамадзянін краіны 65-гадовы Ян Кульчык з актывамі 3,9 мільярда долараў.

**Англія.** Былы буйны расійскі банкір у выгнанні С. Пугачоў заявіў, што Пуцін будзе імкнуцца правіць да канца жыцця, як Сталін альбо Брэжнеў, гэта трагедыя для нацыі.

**Італія.** Афіцыйны ўзровень беспрацоўя па краіне вырас да 12,5 %, а дзяржаўны доўг дасягнуў адзнакі 135 % ВУП, горш сітуацыя з даўгамі толькі ў Грэцыі.

**Літва.** Літоўская кампанія Global Trade LT прапанавала беларусам пакупкі электронікі і бытавой тэхнікі праз Інтэрнэт і забіраць іх праз 10 дзён прама на граніцы.

**Фінляндыя.** Кампанія Nokia прадставіла навінку – відэакамеру віртуальнай рэальнасці для здымак фільмаў, гульняў і тэлепраграм з 8 аб'ектывамі і панарамнай карцінкай.

**Ізраіль.** Вядомая тэлевядучая К. Сабчак пацвердзіла, што ў Расіі ёсць расстрэльныя спісы нязгодных з рэжымам, Крым будзе вялізным гемароем для РФ яшчэ бліжэйшыя 100 гадоў.

**Францыя.** Кіраўнік еўрапейскага футбола 60-гадовы Мішэль Плаціні першым пацвердзіў, што ён будзе ўдзельнічаць у чарговых выбарах у лютым новага прэзідэнта ФІФА.

**Швейцарыя.** З-за гучнага скандалу ў РФБ Міжнародная федэрацыя баскетбола (ФІБА) адхіліла ўсе зборныя каманды Расіі ад удзелу ў міжнародных спаборніцтвах.

# Беларусь з 1 верасня адмовіцца ад другога гатунку малака



■ **БЕЛТА**

**Усе малако ў Беларусі будзе дзяліцца на тры гатункі - экстра, вышэйшы і першы. Гэта прадугледжана змяненнем па дзяржаўным стандарце Беларусі СТБ 1598-2006 «Малако каровіна сырое. Тэхнічныя ўмовы», якое ўступіць у сілу 1 верасня бягучага года, паведаміў сёння ў час анлайн-канферэнцыі «Канкурэнтаздольнасць прадукцыі і абарона рынку - прыярытэты дзейнасці Дзяржстандарту» старшыня Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Беларусі Віктар Назаранка.**

Гэты дзяржаўны стандарт дзейнічае ў рэспубліцы з 1 жніўня 2006 года. Унясенне змянення было ініцыявана Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання для павышэння якасці і канкурэнтаздольнасці вырабляемага ў Беларусі малака і малочнай прадукцыі. «Патрабаванні, устаноўленыя ў гэтым змяненні, не супярэчаць тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза» Аб бяспецы малака і малочнай прадукцыі «(ТР МС 033/2013), але больш жорсткія для сырога малака па двух мікрабіялагічных паказчыках: змест мікраарганізмаў і саматычных клетак», - падкрэсліў Віктар Назаранка.

Ён звярнуў увагу на тое, што тэхнічным рэгламентам МС «Аб бяспецы малака і малочнай прадукцыі» дзяленне малака на гатункі не прадугледжана. «Але ў нашым стандарце яно ёсць, і гэтым змяненнем выключаецца другі гатунак малака - будуць толькі экстра, вышэйшы і першы», - дадаў кіраўнік Дзяржаўнага стандарта.

Акрамя таго, змяненнем таксама ўводзіцца нармаванне агульнай колькасці мікраарганізмаў, якое дазваляе больш аператыўна ацэньваць мікрабіялагічную бяспеку малака.

Забеспячэнне выпуску малака ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі, упэўнены Віктар Назаранка, будзе стымуляваць вытворцаў сырога малака да павышэння санітарна-гігіенічнага ўзроўню вытворчасці, а гэта, безумоўна, павысіць бяспеку, якасць і канкурэнтаздольнасць гатовай малочнай прадукцыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Падзенне сёлета на трэць беларускага экспарту, як папярэдзіў палітолаг С. Нікалюк, гэта – яшчэ не дно, доля "Крымнаша" ў айчынным крызісе – рашаючая.

**Гомель.** На складах "Гомсельмаша" складскія запасы непрададзенай прадукцыі наблізіліся да 11 месяцаў працы, летась завод-гігант вырабіў толькі 847 камбайнаў.

**Жодзіна.** Да засмучэння калектыву БелАЗа кампанія Caterpiller угаварыла адмовіцца ад беларускіх самазвалаў ранейшага буйнога спажыўца расійскі "Нарыльскі нікель".

**Горкі.** У мясцовай сельгасакадэміі зноў адбыўся недабор студэнтаў на асноўныя профільныя спецыяльнасці "аграном", "заатэхнік", "эканаміст АПК" і іншыя.

**Баранавічы.** Падчас адпачынку на возеры ля вёскі Амневічы п'яны 26-гадовы мужчына на Volvo заднім ходам наехаў на намёт і смяртэльна траўміраваў дзяўчыну 22 гадоў.

**Гродна.** Пры спробе збегчы на аўто міліцыя затрымала намесніка камандзіра адной з ваенных часцей па тылу пасля атрымання 300 долараў хабару за набыццё мэблі.

**Слонім.** У турму можа патрапіць занадта раўнівы малады хлопец, які на падпітку стаў сварыцца са сваёй каханкай у паліклініцы і разбіў яе два стацыянарныя тэлефоны.

**Мінск.** Былы пасол Беларусі ў ЗША, глава Парка высокіх тэхналогій В. Цэпкала адзіны з чыноўнікаў заступіўся за арыштаванага бізнэсмена сферы IT-тэхналогій В. Пракапеню.

**Брэст.** Следчы камітэт спыніў крымінальны пераслед 63-гадовага пенсіянера з-за адсутнасці прыкмент злачынства за некалькі палітычных плакатаў на плоце ля дома.

**Мінск.** Пасля вяртання з паездкі па Расіі сусветна вядомая пісьменніца С. Алексіевіч заявіла, што ў нас не ўсё так страшна, як там зараз, у суседзяў проста жахлівая сітуацыя.

**Магілёў.** Да 12 гадоў турмы пагражае бухгалтару райпо і двум загадчыцам магазінаў, якія па папярэдняй змове рознымі махінацыямі скралі больш 560 млн. рублёў выручкі.

**Гомель.** Пісьмом маці зніклага 7 мая 1999 года міліцэйскага генерала Ю. Захаранка паведамілі, што расследванне абставін здарэння следчыя зноў прадоўжылі.

**Шклоў.** У раённым цэнтры ўсталявалі новы геральдычны знак з гербам горада з назвай толькі на рускай мове і датай заснавання 1535 год, калі яго захапілі і спалілі … рускія войскі.

**Мядзель.** У былым будынку ПМК адкрылі новую станцыю па сарціроўцы і перапрацоўцы да 1720 тон смецця і адыходаў у год, але яна акупіцца толькі праз 50 гадоў.

**Мінск.** На чэмпіянат свету, як заявіў вядомы футбольны трэнер А. Байдачны, беларусы не патрапяць, бо ў нас футбол у занепадзе, пабудавалі адзін сучасны стадыён і той у лесе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Сакратар Цэнтрвыбаркама Беларусі М. Лазовік пацвердзіў, што на прадстаячых прэзідэнцкіх выбарах паўсюдна на Віцебшчыне будуць празрыстыя ўрны для галасавання.

**Мёры.** Міліцыя затрымала 45-гадовага жыхара вёскі Цвеціна, які вечарам адпомсціў егеру мясцовага лясгаса і застрэліў са стрэльбы яго ля ўласнага дома загінуўшага.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь" адмовіўся ад выпуску тэлевізараў, сталічны "Гарызонт" пакуль трымаецца, але галіна прайграе канкурэнцыю заводам LG і Samsung у Расіі.

**Лііёзна.** Абласны філіял "Белаграпрамбанка" аказаў спонсарскую дапамогу мясцовай СШ № 1 райцэнтра і перадаў ёй 14 камп'ютараў для двух лінгафонных кабінетаў.

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў даручыў арганізаваць дадатковыя кароткатэрміновыя курсы эканомікі для кіраўнікоў усіх гаспадарак Прыдзвіння.

**Шуміліна.** Вярхоўны суд Беларусі пакінуў у сіле пажыццёвае зняволенне двух жыхароў райцэнтра за серыю грабяжоў летась і забойства двух чалавек.

**Віцебск.** За несвоечасовыя выплаты заробкаў да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі ўжо 12 кіраўнікоў раёнаў вобласці і іх намеснікаў, звольнілі з працы 5 кіраўнікоў АПК.

**Сураж.** Да гістарычнага мінімуму панізіўся ўзровень вады на рацэ Заходняя Дзвіна, стала немагчыма працаваць рачному транспарту на ўчастках да Віцебска і Полацка.

**Віцебск.** У першым паўгоддзі сярэднямесячная заработная плата па вобласці крыху вырасла, але яна цяпер меней 416 долараў, 175 арганізацый з даўгамі па заробках у суме 96мільярдаў.

**Гарадок.** Пасля рэканструкцыі ў раённым-цэнтры зноў запрацаваў у цэнтры горада абноўлены Дом рамёстваў і фальклору, у ім з'явіўся і салон-магазін вырабаў майстроў.

**Паставы.** Чэмпіён раёна па ручной касьбе траў пастаўчанін Валерый Каліцкі стаў пераможцам і V Міжнароднага турніру касцоў на Урале, атрымаў падарунак і планшэт.

**Глыбокае.** Па праграме партнёрскіх сувязей Глыбоччыну наведала дэлегацыя з 14 школьнікаў і педагогаў музычнай школы з ізраільскага горада Кір'ят-Бялік.

**Браслаў.** На старой брукаванцы ў горадзе з'явілася "Дарога ажыццяўлення жаданняў" з металічнай аркай і таксама выявай герба горада і датай яго заснавання (1065 год).

**Шуміліна.** За два тыдні правялі ачыстку ад іла і добраўпарадкаванне пляжа мясцовага штучнага возера з зонай адпачынку, дзе паставілі прыбіральні, арэлі і прыгожыя домікі.

**Орша.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць групы фанатаў ФК "Тарпеда-БелАЗ"(Жодзіна), якія збілі ля стадыёна мясцовых хлопцаў і абакралі аднаго з іх.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Капай глыбей!

## Пад такім дэвізам на Глыбоччыне прайшлі чарговыя 7-я БАЖынкі




■ **Уладзімір Скрабатун**

Штогод Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) ладзіць свой карпаратыўны фэст БАЖынкі. І кожны год ён праводзіцца ў розным месцы Беларусі, але найперш там, дзе ёсць актыўныя сябры БАЖа. Правесці БАЖынкі на Глыбоччыне было вялікай марай в.п. Яўгена Самсонава, нашага сталага аўтара, які, на жаль, год таму, пакінуў нас.

Аднак ягоная мара сёлета здзейснілася... На Глыбоччыне адбыліся чарговыя, ужо 7-я БАЖынкі. Дэвіз сёлетніх БАЖынак – “Капай глыбей!”

На глыбоцкія БАЖынкі прыехала больш за 40 чалавек з розных месцаў Беларусі: Мінска, Віцебска, Полацка, Маладзечна, натуральна і з Глыбокага.

7 жніўня ўдзельнікаў БАЖынак на прыкасцельным пляцы Глыбокага сустракалі члены Глыбоцкай суполкі БАЖ і яе старшыня Таццяна Смоткіна. З глыбоцкімі вішнямі! Гэта цяпер такі модны глыбоцкі трэнд!

Улічваючы тое, што большасць прыезжых ніколі ў Глыбокім не была, мо толькі чула, што ёсць такое Глыбокае – экскурсія па горадзе!

Яе правялі краязнаўцы Уладзімір Скрабатун і Юры Калбасіч. Гасцей горада, безумоўна, уразіла плошча з двума прыгожымі храмамі ў стылі віленскага барока, а таксама – усе былі ў захапленні ад Алеі славутых землякоў.

Натуральна, самай файнай разынкай Глыбокага з’яўляецца Кафедральны сабор. Тут можна правесці аж тры цікавых экскурсіі: інтэр’ер сабора, падзямеллі сабора, а таксама падарожжа на самы верх адной з вежаў храма, па прыступках якой ступала нага самога Напалеона Банапарта...

– Ні разу не была ў Глыбокім, нават і не падазравала, што такі прыгожы і цікавы горад!– рэзюмавала адна журналістка.

Паслязмястоўнайэкскурсіі ўдзельнікі БАЖынак перамясціліся ва ўтульныя апартаменты “Сядзібы Якімовіча”. І, прызнацца, госці былі вельмі ўражаныя, што ў Глыбокім ёсць такія досыць прыстойныя месцы, дзе можна прыняць і размясціць вельмі патрабавальную, часам капрызную, гарадскую публіку. Ну, а нам, глыбачанам – прымаючаму боку – гонар за свой горад. Спадабалася ж усім!

Усе прысутныя былі падзеленыя на пяць камандаў. Яны мусяць напісаць матэрыялы аб Глыбокім для Вікіпедыі – шматмоўнай, свабоднай інтэрнэт-энцыклапедыі, якая ствараецца ў супрацоўніцтве ахвотнікаў і каардынуецца некамерцыйнай арганізацыяй Фондам Вікімедыя. Праект «Вікіпедыя» існуе як публічная ўніверсальная інтэрнэт-энцыклапедыя, у якой аўтарам артыкула можа выступіць кожны ахвочы.

Натуральна, кожны журналіст прафесійна напіша нататку, рэпартаж, фельетон, аднак напісанне артыкулаў для Вікіпедыі мае сваю спецыфіку. Трэнер Святлана Ермаковіч прадэманстравала майстар-клас напісання артыкулаў для Вікіпедыі.

Намі – глыбоцкай арганізацыя БАЖа – было прапанавана пяць тэмаў:

*1. Газета “Вольнае Глыбокае”* .

*2. Помнік і магіла Мюнхгаўзена ў Глыбокім.*

*3. Вішнёвы фэст і аграном Баляслаў Лапыр.*

*4.Глыбоцкідэндралагічны сад і яго заснавальнік Віктар Ламака.*

*5. Напалеон у Глыбокім. Легенды і факты.*

Нашы глыбоцкія журналісты былі куратарамі для кожнай з камандаў. Натуральна, аўтар гэтых радкоў курыраваў каманду, якая піша тэму “Газета “Вольнае Глыбокае”, Леанід Юрык – “Помнік і магіла Мюнхгаўзена”, Зміцер Лупач – “Вішнёвы фэст і аграном Баляслаў Лапыр”, Таццяна Смоткіна – “Глыбоцкі дэндралагічны сад і яго заснавальнік Віктар Ламака”, а Юры Калбасіч – “Напалеон у Глыбокім. Легенды і факты”.

Зразумела, куратары арганізавалі паездкі па аб’ектах, якія будуць апісаныя ў Вікіпедыі. Па словах Таццяны Смоткінай, у Глыбоцкім доследным лясгасе паставіліся дадатна, абяцалі ўсялякую дапамогу. Гэтая каманда напісантаў наведала і Глыбоцкі дэнралагічны сад.

Пасля прэзентацыі работ, абмеркавання і іх адзнакі ўдзельнікі БАЖынак, увечары, выехалі ў вёску Валодзькава на тамтэйшую аграсядзібу “Родны кут”.

Тут усіх чакала вялікая канцэртная праграма. Сюды завітаў беларускі спявак і музыка Зміцер Вайцюшкевіч, які спяваў пра беларускіх кабет, мужчын, каханне, аблокі, сны, месяц... А таксама фольк-гурт з Лепеля, які прадэмастраваў такавальны майстар-клас пад дуду і скрыпку.

Усё гэта – у святле вогнішчаў і безлічы зорак у чыстым жнівеньскім небе.

Раніца наступнага дня пачалася з водных працэдураў на возеры Акунёва. Чыстая і лагодная вада падчас жнівеньскай спёкі – асалода!

Далей, паміж тымі ж камандамі, якія пісалі матэрыялы для Вікіпедыі, адбыліся спаборніцтвы па дартсу і рыбалцы. Адна злоўленая рыба – адно ачко. Дарэчы, ні адна з рыбін падчас лоўлі не пацярпела – усіх, пасля падліку ачкоў, адпусцілі назад у сажалку.

Затым каманды паспаборнічалі ў гульні ў валейбол.

На заканчэнне БАЖынак адбылася прэзентацыя камандаў. Нягледзячы на анамальную спёку, многія прэзентацыі атрымаліся надзвычай крэатыўнымі і энергічнымі. Каманда “Скрабатуны” пад кіраваннем Змітра Саўкі нават падрыхтавала спецвыпуск газеты “Вольнае Глыбокае” і атрымала прыз глядацкіх сімпатый.

Шляхам апытання, як заўсёды, выбралі «Містэра БАЖынкі» і «Міс БАЖынкі». Кандыдатаў, што характэрна, было шмат... Але перамаглі Алег Агееў і Таццяна Цыуля.

Пасля 16-й гадзіны адбылося развітанне з глыбоцкімі БАЖынкамі. Госці накіраваліся дадому, у свае гарады, са сваімі ўражаннямі ад чарговых БАЖынак.

Дзе адбудуцца наступныя БАЖынкі-2016 – пакуль невядома. Мо ў Вайцюшках? На беразе Нёмана, паміж Лідай і Навагрудкам, у самым сэрцы Вялікага княства Літоўскага. Такой, дарэчы, была, прапанова музыкі Змітра Вайцюшкевіча. Ах-х! Сам жа сп. Вайцюшкевіч і ёсць гаспадаром гэтай аграсядзібы.




**Трэнер Святлана Ермаковіч ацэньвае вынікі працы каманды, якая займалася напісаннем артыкула для Вікіпедыі аб Глыбоцкім дэндралагічным садзе.**
*Фота baj.by*



**Фольк-гурт з Лепеля.**



**Калі ўжо Глыбокае – Вішнёвая сталіца, дык сустракаць гасцей горада – з вішнямі! У цэнтры – Таццяна Смоткіна, старшыня Глыбоцкай суполкі БАЖа.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*




**Развітальны групавы здымак.**

# За парушэнне забароны на наведванне лясоў могуць аштрафаваць на чатыры з паловай мільёны




**Захаванне нашай прыроды, яе багаццяў, флоры і фаўны, барацьба з браканьерствам і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства – адзін з асноўных накірункаў у рабоце Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *старшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень па ўсёй краіне супрацоўнікі інспекцыі затрымліваюць дзясяткі браканьераў, адбіраюць кіламетры браканьерскіх сетак, дзясяткі адзінак агнястрэльнай зброі, велізарную колькасць незаконна нарыхтаванай драўніны. Уся гэтая праца сістэматычна асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі, размешчаная на інтэрнэт-сайце Дзяржінспекцыі. Работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі таксама штотыдзень затрымліваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства. За ліпень 2015 года інспектарамі выяўлена больш за 15 грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, з якіх адно падпадае пад дзеянне Крымінальнага Кодэкса.

Так, каля 4 гадзін раніцы 30 ліпеня супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрыманыя двое жыхароў г.п. Шаркаўшчына, якія выкралі з сажалак ААТ “Рыбгас” Навінкі” 103 кг карпа. У дачыненні да парушальнікаў узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь.

Аднак, праца міжраённай інспекцыі заключаецца не толькі ў спыненні фактаў браканьерства, але і ў правядзенні з насельніцтвам прафілактычнай працы, тлумачэнні дзеючага заканадаўства і адказнасці за яго парушэнне.

З надыходам жніўня на тэрыторыі краіны ўсталявалася гарачае надвор’е, і востра паўстала пытанне аб папярэджанні прыродных пажараў. Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ў дадзены момант забаронена наведванне лясоў, тарфянікаў. Толькі за ліпень бягучага года ў вобласці адбылося сем пажараў, з іх тры на тарфяніках і ў лясах чатыры. За парушэнне забароны на наведванне лясоў, развядзенне вогнішчаў, правілаў супрацьпажарнай бяспекі прадугледжана адміністрацыйная адказнасць. Так. арт. 15.29 Кодэкса Рэспублікі Беларусь “Аб адміністрацыйных правапарушэннях» па частцы 1 прадугледжвае штраф да 25 базавых велічынь, на падставе часткі 2 штраф да 50 базавых велічынь, арт. 15.58 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф у памеры да 12 базавых велічынь.

Пра тэрміны зняцця забароны на наведванне лясоў будзе паведамлена дадаткова.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон “гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156 -28.670. маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



Браканьерскі ўлоў, які патрапіў у рукі інспектараў.

# У Глыбокім непадалёк ад помніка Мюнхаўзену правалілася зямля

**Першапачатковая версія ва ўсіх была – знайшлі падземны ход!**

■ **Зміцер Лупач**

Пра тое, што ў Глыбокім яны ёсць, ведае кожны. Так было і на гэты раз. Адразу некалькі чалавек паведамілі аўтару, што чулі ад старэйшых людзей, што існуе падземны ход ад Ільінскай капліцы да сучаснай царквы. Ды што там да царквы. Нават да самога Беразвечча!

Што ж, пакінем гэтыя загадкі будучыні. Гэты ж правал, хутчэй за ўсё, не звязаны з далёкай мінуўшчынай. На думку аўтара, гэту пустоту пакінулі сувязісты, калі пракладалі кабелі. Пакуль жа небяспечнае месца абгарадзілі і сталі чакаць спецыялістаў-краязнаўцаў.

Калі версія з падземным ходам не пацвердзіцца, гэты правал супрацоўнікі жыллёвай гаспадаркі проста засыпяць жвірам. А загадкі глыбоцкіх падземных ходаў будуць чакаць сваіх даследчыкаў!





# Асаблівасці падрыхтоўкі да ацяпляльнага сезона 2015-2016 года

**Падрыхтоўка да ацяпляльнага сезона 2015-2016 гг. у самым разгары, і ўжо зарэгістраваныя першыя пашпарты гатоўнасці (па стане на 07.08.2015 г. зарэгістравана 6 пашпартоў спажыўцоў і 1 пашпарт цеплакрыніц).**

■ **А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА*

Хочацца нагадаць, што падрыхтоўка да асенне-зімовага перыяду 2015-2016гг. праводзіцца згодна з ТКП 388-2012 (02230/0230) “Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергазабеспячальнымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі», як і ў мінулым годзе.

Аднак у гэтым годзе ўмовы для афармлення пашпарта гатоўнасці сталі больш жорсткімі. Згодна Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 26 траўня 2015 года №443 асаблівая ўвага пры рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці спажыўцоў будзе звяртацца на аснашчэнне шматкватэрных жылых дамоў, якія знаходзяцца ў гаспадарчым вядзенні або аператыўным кіраванні падпарадкаваных арганізацый і на балансе жыллёва-камунальнай гаспадаркі, прыборы ўліку цеплавой энергіі і сістэмы аўтаматычнага рэгулявання ацяплення і гарачага водазабеспячэння з улікам тэхнічнай магчымасці і эканамічнай мэтазгоднасці.

Па аб’ектах спажыўцоў, сістэмы цепласпажывання якіх не абсталяваны аўтаматычнымі рэгулятарамі тэмпературы, падпісваца акты праверкі гатоўнасці будуць толькі ў абгрунтаваных выпадках, а менавіта:

■ пры наяўнасці ўзгаднення пераносу тэрмінаў устаноўкі САР мясцовымі органамі ўлады па падведамным ім арганізацыям;

■ пры прад’яўленні разліку, які пацвярджае немэтазгоднасць устаноўкі рэгулятараў тэмпературы.

Таксама будзе звернута ўвага на стан цеплавых сетак надземнай пракладкі і транзітных цеплавых сетак, якія знаходзяцца на балансе спажыўцоў, пры гэтым асаблівая ўвага будзе надаздена тэхнічнаму стану цеплавой ізаляцыі трубаправодаў і абсталявання.

Штогод пры праверцы гатоўнасці да АЗП выяўляецца, што цеплавыя пункты жылых дамоў, якія знаходзяцца на балансе спажыўцоў, застаюцца недаўкамплектаванымі кантрольна-вымяральнымі прыборамі згодна патрабаванняў дзеючых правіл.

Да спажыўцоў, якія не выканалі ўмовы гатоўнасці да працы ў асенне-зімовы перыяд да 1 кастрычніка 2014 года, філіялам “Энерганагляд” будуць прыменены меры, прадугледжаны артыкулам 20.11 КоАП.

**Па ўсіх пытаннях, якія ўзніклі ў працэсе падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду, звяртайцеся за даведкамі ў цеплатэхнічную інспекцыю Глыбоцкага МРА па тэл. 8-02156-2-87-04.**



# Калі Вы кіруеце канём, таксама трэба выконваць Правілы дарожнага руху!

**У адпаведнасці з Правіламі дарожнага руху: вадзіцель – фізічная асоба, якая кіруе транспартным сродкам (гужавая павозка з'яўляецца транспартным сродкам), за выключэннем асобы, якая навучаецца кіраванні механічным транспартным сродкам (здае кваліфікацыйны практычны экзамен на права кіравання механічным транспартным сродкам).**

■ **Ю.В. Заяц,**
*старшы дзяржаўны аўтаінспектар АДАІ Глыбоцкага РАУС*

Да вадзіцеля прыраўноўваецца асоба, якая навучае кіраванню механічным транспартным сродкам (якая прымае кваліфікацыйны практычны экзамен на права кіравання механічным транспартным сродкам) і пры гэтым знаходзіцца ў ім, а таксама коннік, паганяты жывёлы, таму ўсе патрабаванні, што прад'яўляюцца да вадзіцеляў, прад'яўляюцца і да асобы, што кіруе гужавой павозкай.

У адпаведнасці з главой 21 Правілаў дарожнага руху: вадзіцелі гужавых транспартных сродкаў, коннікі і паганятыя жывёлы павінны быць не маладзей за чатырнаццаць гадоў. Вадзіцелям гужавых транспартных сродкаў, коннікам і паганятым жывёлы забараняецца: вадзіць жывёл па дарогах агульнага карыстання з удасканаленым пакрыццём па-за населеных пунктаў; пакідаць жывёл без нагляду на дарозе, пераганяць іх праз чыгуначныя шляхі і дарогі па-за спецыяльна абсталяваных месцаў, узгодненых ва ўстаноўленым парадку, а таксама ў цёмны час сутак і (або) пры недастатковай бачнасці дарогі; выпасаць жывёл у межах паласы зямлі, на якой размяшчаюцца дарога і ўсе яе збудаванні. Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (або) пры яе недастатковай бачнасці на гужавых транспартных сродках спераду павінен быць уключаны ліхтар, які выпраменьвае белае святло, ззаду – ліхтар, які выпраменьвае чырвонае святло. Рух па праезнай частцы дарогі на гужавых транспартных сродках і коннікам дазваляецца толькі ў адзін шэраг на адлегласці не далей за 1 метр ад яе правага краю. Пры гэтым: забараняецца паварочваць налева або разварочвацца на дарозе, якая мае трамвайны шлях, і на дарозе, якая мае больш за адну паласу для руху ў дадзеным напрамку; дапускаецца рух гужавых транспартных сродкаў і коннікаў па абочыне, калі гэта не стварае перашкоды для бяспечнага руху пешаходаў. Вадзіцель гужавога транспартнага сродку, коннік пры выездзе з другараднай дарогі на галоўную ў цёмны час сутак, пры недастатковай бачнасці дарогі або ў месцах з яе абмежаванай обачнасцю абавязаны весці жывёлу за аброць.




У адпаведнасці з пунктам 200 Правілаў дарожнага руху – гужавы транспартны сродак павінен быць абсталяваны спераду святловяртальнікам белага колеру, ззаду – чырвонага, мець прадугледжаную канструкцыяй спраўную стаяначную тармазную прыладу і супрацьадкатныя ўпоры.

Нягледзячы на невялікую цану спецыяльных элементаў, якія выкарыстоўваюцца для абсталявання ровараў, гужавых павозак, не кожны гаспадар клапоціцца аб належным абсталяванні свайго транспарту, спрабуючы зэканоміць капейку. У канчатковым выніку такая эканомія можа абярнуцца трагедыяй.

Згодна артыкула 18.23 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях – "парушэнне правілаў дарожнага руху пешаходам і іншымі ўдзельнікамі дарожнага руху або адмова ад праходжання праверкі (агляду)» - парушэнне правілаў дарожнага руху пешаходам, асобай, якая кіруе роварам, гужавым транспартным сродкам, або асобай, якая ўдзельнічае ў дарожным руху і не кіруе транспартным сродкам, – цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь. Парушэнне тых жа правілаў дарожнага руху асобамі, учыненае ў стане алкагольнага ап'янення або ў стане, выкліканым ужываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, а таксама адмова ад праходжання ва ўстаноўленым парадку праверкі (агляду) на прадмет вызначэння стану алкагольнага ап'янення або стану, выкліканага ўжываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад трох да пяці базавых велічынь. Учыненне асобамі вышэйзгаданых парушэнняў правілаў дарожнага руху, якія прывялі да стварэння аварыйнай абстаноўкі, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад трох да васьмі базавых велічынь. Учыненне асобамі вышэйзгаданых парушэнняў Правілаў дарожнага руху, якія пацягнулі прычыненне пацярпеламу лёгкага цялеснага пашкоджання або пашкоджанне транспартнага сродку, грузу, дарожнага пакрыцця, дарожных і іншых збудаванняў або іншай маёмасці, а таксама пакіданне імі месца дарожна-транспартнага здарэння, удзельнікамі якога яны з'яўляюцца, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад пяці да дваццаці базавых велічынь. Базавая велічыня на сённяшні дзень складае 180 000 рублёў.

**Калі Вы не маеце магчымасці набыць святлоадбівальныя элементы самі, то можаце звярнуцца ў аддзел ДАІ Глыбоцкага РАУС па адрасе г. Глыбокае, вул. Камуністычная, дом 6, а жыхары сельскай мясцовасці могуць звярнуцца ў сельскія выканаўчыя камітэты па месцы жыхарства, дзе бясплатна можна атрымаць святлоадбівальныя элементы.**

### Схема абсталявання гужавой павозкі светаадбівальнымі элементамі, якую рэкамендуюць супрацоўнікі аўтаінспекцыі




# У Глыбокім пакуль не будзе Памятнай дошкі аграному Баляславу Лапыру

**Такі адказ на свой зварот атрымалі нядаўна з райвыканкаму прадстаўнікі грамадскасці.**

■ **Зміцер Лупач**

Праўда, у адказе райвыканкама гаворыцца, што Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею даручана весці збор матэрыялаў і экспанатаў для стварэння экспазіцыі, прысвечанай Вішнёваму фэсту. У гэтай экспазіцыі будзе раздзел, прысвечаны аграному Баляславу Лапыру.

Хто такі Баляслаў Лапыр, у Глыбокім ведае шмат хто, асабліва людзі старэйшага пакалення. Ды і тое, што Глыбокае стала Вішнёвай сталіцай, шмат у чым дзякуючы працы гэтага чалавека на Глыбоччыне. Але Баляслаў Лапыр быў знакаміты не толькі як аграном, нават не столькі, а ў першую чаргу тым, што быў беларускім патрыётам. Ён змагаўся за развіццё беларускай культуры, за права кожнага быць беларусам, размаўляць на роднай мове, чытаць на ёй кнігі, спяваць песні. Ён нават арганізаваў з навакольных сялян драматычны гурток. Гэта вельмі не падабалася тагачасным польскім уладам. Але высокі прафесійны досвед і самаадданая праца дазволілі спадару Баляславу заставацца на сваёй пасадзе павятовага агранома ў Глыбокім.

Таму хочацца спадзявацца, што з цягам часу ў Глыбокім з'явіцца не толькі музейная экспазіцыя, прысвечаная Баляславу Лапыру, але і Памятная дошка, і вуліца, якая будзе насіць яго імя. А глыбоцкім краязнаўцам і гісторыкам яшчэ трэба будзе па-новаму адкрыць незаслужана забытае імя слаўнага сына глыбоцкай зямлі.

Аб разглядзе звароту

Разгледзеўшы ваш пісьмовы зварот, Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт паведамляе наступнае.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 2008 г. № 1372 "Аб некаторых пытаннях стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва" вызначаны парадак стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва да якіх адносяцца і памятныя дошкі.

У адпаведнасці з Пастановай творы манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва прызначаны для увекавечвання памяці аб важнейшых гістарычных і грамадскіх падзеях, знамянальных датах сусветнай і айчыннай гісторыі і культуры, вядомых дзяржаўных, палітычных, грамадскіх, ваенных дзеячах, народных героях, дзеячах навукі, мастацтва і культуры.

Лапыр Баляслаў Нікадзімавіч не адносіцца ні да адной з вышэй пералічаных катэгорый грамадзян, таму ўсталяванне памятнай дошкі аграному Баляславу Лапыру не магчыма.

Разам з тым, раённым выканаўчым камітэтам даручана Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею весці збор матэрыялаў і экспанатаў для стварэння музейнай экспазіцыі, прысвечанай правядзенню раённага свята "Вішнёвы фестываль" у якой будзе раздзел, прысвечаны Баляславу Лапыру, як аграному.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 17 жніўня



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Мелодрама **«Долгий путь домой»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.55** Авантюрная комедия **«На крючке»** (Россия).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.40** Мелодрама **«Когда его совсем не ждешь»** (Россия). 1-я серия.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.50** Мелодрама **«Когда его совсем не ждешь»** (Россия). 2-я серия.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«Любопытная Варвара»**
**21.00** Панорама.
**21.40** **«След»**
**23.10** Зона Х.
**23.30** Новости.
**23.45** День спорта.
**00.00** Мелодрама **«Невеста моего жениха»** (Россия).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** **«Дурная кровь»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Учиться жить «
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Илья Муромец».Прерванный полет».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Три аккорда».
**23.55** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Фантастико-приключенческий сериал **«Ковчег»** (Испания).
**10.40** Телебарометр.
**11.10** Анимация для всей семьи. **«Смурфики»** (США).
**12.50** Комедийная мелодрама **«Море. Горы. Керамзит»** Россия . 1-я - 4-я серии.
**16.15** Фантастико-приключенческий сериал **«Ковчег»** (Испания).
**17.55** Детективный сериал **«Участковая»** (Россия).
**19.10** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.00** Мозговой штурм.
**21.35** Телебарометр.
**21.40** КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы-детективы».
**22.40** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**23.35** **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**00.55** **«Участковая»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Док.проект»: «Битва за троном».
**10.20** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 8»**. Сериал.
**11.30** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Пища богов».
**14.45** «Чистая работа».
**15.35** Концерт Михаила Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Спящие демоны».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Кино»: **«Брак по-исландски»**. Исландия, 2008г.
**00.40** «Охотники за сенсациями»: «Ядерные войны каменного века».



**07.00** **Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.50** **Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.05** Лобатамія, д/ф
**10.35** Назад у будучыню. Напалеон I і Беларусь
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні. Ігнат Дамейка
**10.55** Загадкі беларускай гісторыі. Загадкі Агінскага і Залесся
**11.10** Мова нанова. Паэзія
**11.30** Беларусы ў Польшчы
**11.50** **Гамлет** , трагедыя
**16.00** **Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**16.45** Рэйдары, д/ф
**18.20** Размовы эксперта. Станіслаў Шушкевіч
**18.35** Побач з намі
**18.55** Назад у будучыню. Апошні крымскі хан Шахін Герай
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні. Напалеон Орда
**19.20** Невядомая Беларусь. Цені ўлады, рэпартаж
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Супярэчлівая гісторыя, д/ф
**22.55** **Гамлет**, трагедыя
**01.05** Студыя «Белсат»

